№ 47 (1860)
Серада, 17 сакавіка 2004 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Выдавец: УП «Народная воля».
Кошт свабодны.


# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**


E-mail: nv@promedia.by
http://nv.promedia.by


### *Надвор'е*

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — +3...+5, без ападкаў, уначы — +4...+6, дождж; у Брэсце ўдзень — +8...+10, уначы — +7...+9, на працягу сутак — без ападкаў; у Гродне ўдзень — +7...+9, уначы — +6...+8, на працягу сутак — без ападкаў; у Віцебску ўдзень — -1...+1, сонечна, уначы — -1...+1, снег; у Гомелі ўдзень — +3...+5, уначы — +2...+4, на працягу сутак — без ападкаў; у Магілёве ўдзень — -1...+1, сонечна, уначы — 0...+2, без ападкаў.

*www.meteo.by*



**ПУЛЬС**

## З прадпрымальніка Аўтуховіча хочуць спагнаць 350 тысяч долараў




Атрымала працяг гісторыя супрацьстаяння прадпрымальніка Мікалая Аўтуховіча, які ажыццяўляе паслугі таксі ў Ваўкавыску, і мясцовай падатковай інспекцыі. Днямі ў Мінску адбылося пасяджэнне Вышэйшага Гаспадарчага суда Рэспублікі Беларусь, на якім разглядаўся гэты канфлікт. Суддзя Анатоль Гарноўскі прызнаў дзеянні падатковай інспекцыі правамоцнымі і прысудзіў ваўкавыскаму прадпрымальніку аплаціць "эканамічныя санкцыі" ў памеры 711 мільёнаў рублёў (каля 350 тысяч долараў), з якіх 267 мільёнаў рублёў — самому Аўтуховічу, а 444 мільёны рублёў — яго партнёрам з фірмы "Ніка-транс".

Нагадаем, што гаспадар службы "Радыё-таксі 22222" у Ваўкавыску восенню мінулага году абвясціў галадоўку ў знак пратэсту супраць незаконнай, на яго погляд, канфіскацыі шаснаццаці "таксовак", якую ажыццявіла мясцовая падатковая інспекцыя. Аўтамабілі, пасля ўмяшальніцтва Нацыянальнага банка Беларусі, які фактычна прызнаў невінаватасць Аўтуховіча, і незалежнай прэсы, прадпрымальніку вярнулі. Але грашовы "даўжок" не забылі.

Мікалай Аўтуховіч катэгарычна нязгодны з рашэннем Вышэйшага Гаспадарчага суда і збіраецца падаваць касацыйную скаргу на імя яго старшыні.

**Наталля ГАК.**

## Эксперты ЮНЕСКА паедуць у Белавежскую пушчу



17—18 сакавіка Нацыянальны парк "Белавежская пушча" наведаюць эксперты ЮНЕСКА і Міжнароднага саюза аховы прыроды (МСАП). Яны павінны даць ацэнку стану сусветнай спадчыны і вывучыць магчымасці супрацоўніцтва на трансмежавым узроўні.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ.**

## Акцыі ў рукі — і наперад!

Міністэрства эканомікі зацвердзіла пералік адкрытых акцыянерных таварыстваў, акцыі якіх плануюцца да продажу ў гэтым годзе па конкурсе, на аўкцыёне, у тым ліку праз ААТ "Беларуская валютна-фондавая біржа".

У гэты пералік уключана 146 ААТ. У іх ліку — "Беларускія шпалеры" (Мінск), "Мінскаблхлебапрадукт", "Арбіта-Сэрвіс" (Мінск), "Рэспубліканскі Дом мадэляў абутку" (Мінск), "Брэсцкі панчошны камбінат", "Папяровая фабрыка "Спартак" (Шклоў), "Мазырдрэў", "Рэчыцадрэў", "Музінструмент-Барысаў" і іншыя прадпрыемствы.

**Ірына САЗАНОВІЧ.**

## Пасяўная на паперы

У Беларусі завяршылася фарміраванне структуры пасяўных плошчаў на 2004 год. Як паведаміў БелаПАН намеснік начальніка аддзела земляробства і раслінаводства Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання **Віктар КОРНЕЎ,** яравыя культуры сёлета плануецца пасеяць на плошчы 2,2 мільёна гектараў, у тым ліку збожжавыя і зернебабовыя — 1,2 мільёна гектараў, цукровыя буракі — 85 тысяч гектараў, рапс — 47 тысяч гектараў, лён — на 75 тысячах гектараў.

Сёлета, паведаміў спецыяліст Мінсельгасхарчу, запланавана атрымаць 6 мільёнаў 450 тысяч тон збожжа, 3 мільёны тон цукровых буракоў, 8 мільёнаў 300 тысяч тон бульбы, 150 тысяч тон піваварнага ячменю, 50 тысяч тон ільну, 90 тысяч тон масланасення рапсу, 1 мільён 840 тысяч тон агародніны і 440 тысяч тон пладоў і ягад.

**Вольга ЛАПІКАВА.**

## Курсы замежных валют

*На 17 сакавіка Нацыянальны банк Беларусі ўстанавіў наступныя афіцыйныя курсы замежных валют:*

1 долар ЗША — 2152.00 рублі
1 еўра — 2651.59
1 аўстралійскі долар — 1589.36
1 балгарскі леў — 1362.54
1 дацкая крона — 355.85
1 СДР — 3158.32
1 ісландская крона — 30.71
10 японскіх іен — 196.40
1 казахскі тэнге — 15.45
1 канадскі долар — 1614.52
1 кувейцкі дынар — 7303.58
1 кыргызскі сом — 49.95
1 латвійскі лат — 3999.26
1 літоўскі літ — 768.05
1 малдаўскі лей — 171.00
1 нарвежская крона — 312.96
1 польскі злоты — 562.00
1 расійскі рубель — 75.48
1 сінгапурскі долар — 1262.65
10.000 турэцкіх лір — 16.33
1 украінская грыўна — 403.47
1 англійскі фунт стэрлінгаў — 3895.66

**ЧТО СЛУЧИЛОСЬ?**

## Посылка с сюрпризом для министра

На имя министра внутренних дел пришла весьма странная посылка.

Однако вскрывал ее не сам генерал-майор **Владимир НАУМОВ,** а, как и полагается по внутриведомственному протоколу, сотрудники Управления режимно-секретной деятельности МВД. Они-то и обнаружили, что в черном полиэтиленовом пакете находилось некое порошкообразное вещество. Содержимое посылки тут же отправили на экспертизу. Согласно надписи, она была отправлена из Могилева **Софьей Степановной ОРЛОВОЙ.**

Что же получил министр МВД из Могилева еще на минувшей неделе, до вчерашнего дня, 16 марта, оставалось тайной. В Управлении информации и общественных связей МВД, куда обратился за разъяснениями репортер "Народной воли", даже не знали, что их начальник вообще получал такую посылку.

Для плохо информированных журналистов в милицейских погонах сообщим регистрационный номер этого происшествия: по форме 2 — 3094. Зарегистрировано оно дежурной частью ГУВД Мингорисполкома. Со своей стороны предлагаем версию: какая-то добрая женщина, обеспокоенная проблемами родной милиции, решила поддержать министра внутренних дел стиральным порошком для чистки генеральского мундира и запятнанных кителей его многочисленных подчиненных.

**Виталий ЧИЖОВСКИЙ.**

**КЛИНИКА**

# Аукцион исподтишка?

### Чиновники Минского горисполкома не хотят, чтобы конкурсы по сдаче в аренду объектов коммунальной собственности проходили при наибольшей гласности. Почему?

Что ни говорите, а странные наши власти. С одной стороны, бьют себя в грудь, клятвенно заверяя, что верой и правдой служат народу, а с другой — так и норовят за спиной того же народа решать многие вопросы. Ну не на такие ли раздумья наводит следующий факт?

Несколько месяцев назад "Народная воля" обратила внимание на то, что УП "Минский городской центр недвижимости" проводит аукционы на право заключения договоров аренды на нежилые неиспользованные помещения коммунальной собственности. Казалось бы, гласность в этом деле — самое главное. Чем больше людей будет знать об этом, тем больше будет участников аукционов. А это напрямую связано с эффективностью аукционов. Что получит городская казна, если на торги выставляется сто объектов, а желающих взять их в аренду, скажем, пятнадцать—двадцать? Остальные останутся пустовать, принося городскому бюджету только убытки.

"Народная воля", исходя из добрых побуждений, решила помочь столице в проведении вышеназванных аукционов. На страницах газеты периодически стала появляться информация о том, когда пройдет очередной аукцион, какие объекты выставляются, какова их площадь, начальная цена. В редакции думали, что городская власть скажет спасибо, попросит расширить деловое сотрудничество. Ан, нет... Уже после первой публикации раздался телефонный звонок, и мелкий чиновник горисполкома по поручению более высокого чиновника стал, как следователь, допрашивать главного редактора:

— По чьей инициативе "Народная воля" стала печатать информацию о проведении в Минске аукционов?

— По собственной...

— А откуда информация?

— Из достоверных источников.

— Мы вам запрещаем это делать!

— А какое вы имеете право запрещать газете распространять достоверную информацию, что за цензура?

Получив отлуп, чиновники Минского горисполкома на какое-то время замолчали. С их стороны не было ни благодарности "Народной воле" за то, что она делает хорошее дело, гласно доводя информацию о предстоящих аукционах до широких кругов населения, ни каких-либо угроз.

Но вот недавно "Народная воля" опять напечатала подробную информацию об ожидаемом аукционе. Звонок из того же горисполкома:

— Так кто вам разрешил это делать?

Можете представить себе реакцию главного редактора? Как тут открытым текстом не сказать: **чиновники Минского горисполкома действительно не хотят, чтобы аукционы на право заключения договора аренды на нежилые неиспользованные помещения проходили при наибольшей гласности**. Можно предвидеть возражение: так мы же доводим информации по другим каналам. Ну и что? Разве дополнительная реклама может быть лишней?

Нет, вопрос здесь, видимо, в другом. Не выгоднее ли кое-кому проводить аукционы при как можно меньшей гласности?

Этот вопрос редакция газеты "Народная воля" задает лично председателю Минского горисполкома **Михаилу ПАВЛОВУ**. Ведь это его чиновники не хотят более широкой гласности в проведении аукционов.

**Редакция газеты «Народная воля».**

## Беларускі цукар — на экспертызу

Дзяржаўны мытны камітэт Расіі ўнёс змяненні ў рэжым увозу цукру з Беларусі. Цяпер увесь цукар, які ідзе ў Расію з Беларусі, павінен будзе праходзіць спецыяльную экспертызу. Калі пасля экспертызы высветліцца, што цукар быў выраблены за межамі Беларусі, груз будзе абкладацца мытнымі пошлінамі, прадугледжанымі для замежных вытворцаў. Такі парадак, паводле інфармацыі расійскіх СМІ, устаноўлены распараджэннем ДМК Расіі ад 1 сакавіка. Беларускія вытворцы могуць бяспошлінна ўвозіць у Расію бурачковы цукар, а любы іншы абкладаецца мытнай пошлінай у суме 340 долараў ЗША за тону.

Паводле паведамлення газеты "Ведомости", расійскія трэйдэры дабіваюцца закрыцця беларускіх паставак цукру ўжо больш за два гады. На іх думку, менавіта танны беларускі цукар стаў адной з прычын, па якой расійскі рынак летась "праваліўся" і амаль усе кампаніі панеслі страты.

**Аляксей АРЭШКА.**



**ВНИМАНИЕ!**

*По самым низким ценам (без стоимости почтовых услуг) минчане могут оформить подписку на "Народную волю" в пунктах подписки, в магазинах и киосках "Мингорсоюзпечать". При этом газету можно будет получать в любой удобной для вас торговой точке "Белсоюзпечати". Публикуем адреса пунктов, где можно оформить подписку "До востребования". Если есть какие-то вопросы — звоните по указанным телефонам.*

# И Вы сэкономите!

### Участок подписки «Белсоюзпечать»

| | |
|---|---|
| ул.Володарского, 16, комн. 302 | 227-88-41 |

### Пункты приема подписки:

| | |
|---|---|
| ул.Жуковского, 5, корп.1 | 224-32-03 |
| пр.Ф.Скорины, 113 | 264-22-91 |
| ул.Романовская Слобода, 9 | 220-83-04 |
| ул.О.Кошевого, 8 | 230-29-20 |

### Магазины

| | |
|---|---|
| №1 ул.Жуковского, 5 | 224-03-76 |
| №2 пр.Ф.Скорины, 44 | 284-83-59 |
| №3 пр.Ф.Скорины, 76 | 232-46-23 |
| №4 ул.Ленина, 15 | 227-11-92 |
| №6 ул.Филимонова, 1 | 235-63-11 |
| №7 ул.Я.Коласа, 69 | 288-30-20 |
| №8 ул.Сурганова, 40 | 232-45-10 |
| №9 пр.Рокоссовского, 140 | 247-30-15 |
| №10 бульвар Шевченко, 7 | 233-74-88 |
| №11 пр.Пушкина, 77 | 255-80-71 |
| №12 ул.Кижеватова, 80 | 278-77-61 |
| №13 ул.Калиновского, 82, корп.2 | 264-06-42 |
| №14 ул.Володарского, 22 | 227-75-55 |
| №15 ул.Танковая, 16 | 223-82-39 |
| №16 ул.В.Хоружей, 24 | 234-27-25 |
| №17 ул.Некрасова, 35 | 231-03-28 |
| №18 станция метро "Площадь Победы" | 284-31-06 |
| №19 пр.Машерова, 51, корп.1 | 223-81-66 |
| №20 ул.Есенина, 16 | 271-87-21 |
| №21 станция метро "Пушкинская" | 255-57-20 |
| №22 ул.Илимская, 10, корп.2 | 243-16-83 |
| №23 ул.Славинского, 39 | 264-36-33 |
| №24 ул.Жилуновича, 31 | 245-05-74 |
| №25 ул.К.Маркса, 21 | 227-08-52 |

### Киоски

№2 Лингвистический университет, ул.Захарова, 21
№18 Технологический университет, ул.Свердлова, 13/4
№38 Педагогический университет, ул.Советская, 18
№78 г-ца "Юбилейная", пр. Машерова, 19
№95 Министерство архитектуры и строительства, ул.Мясникова, 39
№136 станция метро "Площадь Я.Коласа", выход к Академии физвоспитания
№187 г-ца "Беларусь", ул.Сторожевская, 15
№189 Автовокзал "Московский"
№198 Экономический университет, пр. Партизанский, 26
№209 проходная МАЗа, ул.Социалистическая, 2
№228 Университет культуры, ул.Рабкоровская, 17
№232 Минский завод холодильников, пр. Машерова
№245 Больница скорой помощи, ул.Кижеватова, 56
№259 Минский государственный торговый колледж, ул.Восточная, 183
№260 пр.Ф.Скорины, 169
№262 г-ца "Планета", пр. Машерова, 31
№298 пр.Машерова, 75/1
№302 9-я больница, ул.Семашко, 8
№313 Слободской проезд, 24

**ГОЛАС НАРОДА**

## Выбарчаму кодэксу — больш дэмакратычнасці

Больш за 70 тысяч подпісаў грамадзян Беларусі сабрана ў падтрымку распрацаваных дэпутатамі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу паправак у Выбарчы кодэкс. Пра гэта БелаПАН паведаміў адзін з аўтараў дакумента дэпутат **Уладзімір ПАРФЯНОВІЧ.**

З гэтай заканадаўчай ініцыятывай, нагадаем, летам 2003 года выступілі прадстаўнікі дэпутацкай групы "Рэспубліка" — Ігар Баслык, Уладзімір Парфяновіч, Іван Пашкевіч, Валерый Фралоў і Сяргей Скрабец.

Прапанаваныя парламентарыямі змяненні ў Выбарчы кодэкс прадугледжваюць, у прыватнасці, магчымасць удзелу ў выбарчых камісіях усіх узроўняў прадстаўнікоў грамадскасці, палітычных партый і арганізацый, пашырэнне паўнамоцтваў назіральнікаў за ходам выбараў і пры падліку галасоў, адмену датэрміновага галасавання, а таксама магчымасць судовага абскарджання любых рашэнняў арганізатараў выбараў.

Як паведаміў У.Парфяновіч, аўтары законапраекта маюць на мэце сабраць 1 мільён подпісаў у падтрымку змяненняў у Выбарчы кодэкс.

Цяпер законапраект знаходзіцца на разглядзе спецыяльнай парламенцкай камісіі, якая вызначыць, ці будзе ён уносіцца на абмеркаванне ў Авальную залу.

Калі прапанаваныя дэпутатамі папраўкі не будуць разгледжаны парламентам і выбары будуць праходзіць паводле цяперашняга Выбарчага кодэкса, члены "Рэспублікі" маюць намер звярнуцца да міжнародных арганізацый з заклікам не прысылаць назіральнікаў на парламенцкія выбары і не прызнаваць іх вынікі, паведаміў У.Парфяновіч.

**Юрый ПАЦЁМКІН.**

**ЗАКУЛИСЬЕ**

## Билеты на «Пластилин» действительны до 22 марта!

***21 и 22 марта на сцене Купаловского театра вновь покажут один из самых нашумевших российских спектаклей — «Пластилин».***

Напомним, что осенью минувшего года во время Международного фестиваля современного театра "Открытый формат" зрители так и не смогли досмотреть "Пластилин". Спектакль вынуждены были прервать: на сцену упал пылающий кусок проводки. Актер, не выходя из образа, аккуратно затоптал его ногой. Когда через пару минут рухнули еще два пылающих куска кабеля, в зале послышались крики: *"Горим!"* К счастью, пожара удалось избежать...

На прощание руководитель московского Центра драматургии и режиссуры **Алексей Казанцев** пообещал зрителям, что спектакль обязательно будет доигран на Купаловской сцене. А сотрудники театра сказали, что *"билеты на сегодняшний спектакль будут действительны и через месяц"*. С тех пор уже минул не один месяц, но, по словам администрации Купаловского театра, в понедельник, *22 марта,* все билеты, сохранившиеся после недоигранного спектакля, будут действительны. Их лишь необходимо зарегистрировать в кассе театра.

Спектакль "Пластилин" молодого режиссера К.Серебренникова по пьесе В.Сигарева в 2001 году стал событием Всемирной театральной олимпиады в Москве. "Пластилину" присуждены премия "Чайка" в номинации "Прорыв" (2001 г.), "Лучший спектакль" фестиваля "Новая драма" (Москва, 2002 г.), премия газеты "Московский комсомолец". Спектакль стал участником международных фестивалей в Торуни (Польша), Бонне (Германия), BITEF (Югославия), Нитре (Словакия), Париже (Франция), Тампере (Финляндия), Берлине (Германия).

**Марина КОКТЫШ.**

**АНОНС**



# Все — вон!

### Или Контракт как лекарство от политической строптивости

*Об этой острейшей проблеме в завтрашнем номере будет рассуждать один из сильнейших аналитиков страны доктор философских наук* **Вячеслав ОРГИШ.**

*Не пропустите!*

**ГАРАЧАЯ КРОПКА**

# У Грузіі вайна!

### Пакуль псіхалагічная

Усё больш абвастраецца канфлікт паміж кіраўніцтвамі Грузіі і ўваходзячай у яе склад Аджарскай аўтаномнай рэспублікі. Прэзідэнт Грузіі **Міхаіл Саакашвілі** ў аўторак заявіў, што *"вырашыў прыняць беспрэцэдэнтныя крокі па абмежаванні функцыянавання марскога порта і аэрапорта "Батумі", а таксама мытна-памежнага паста Сарпі на грузіна-турэцкай мяжы"*. Як перадаюць са спецыяльнага брыфінгу, які прайшоў у Тбілісі, грузінскі лідэр адзначыў, што *"гэта першы выпадак за апошнія 12 гадоў, калі кіраўніцтва Грузіі ідзе на падобныя крокі"*.

Саакашвілі таксама дадаў, што дзяржаўныя ўлады ў Тбілісі *"прынялі меры аб пераадрасоўцы накіраваных у Грузію з-за мяжы тавараў праз іншыя мытна-памежныя пасты і парты, таксама замарожаны рахункі ўрада Аджарыі ў цэнтральных банках Грузіі, ануляваны ліцэнзіі дзейнічаючых на тэрыторыі аўтаномнай рэспублікі банкаў"*. *"Усе гэтыя меры,* — падкрэсліў М. Саакашвілі, — *накіраваны на тое, каб пазбавіць крыніц фінансавання ўлады аўтаномнай рэспублікі. І так будзе да тых часоў, пакуль яны не адумаюцца і не будуць выконваць Канстытуцыю Грузіі"*.

Грузінскі прэзідэнт падкрэсліў, што Тбілісі *"ніколі не будзе мірыцца з тым, што аніводная структура Аджарскай аўтаномнай рэспублікі з часоў Шэварднадзе не падпарадкоўваецца цэнтральным органам улады Грузіі"*, а таксама *"з тым, што прыбыткі ад порта Батумі, мытна-памежнага паста ў Сарпі не трапілі ў цэнтральны дзяржаўны бюджэт Грузіі". "Між тым ад 200 да 300 мільёнаў долараў прыбытку ад гэтага порта і паста маглі пайсці на выдачу зарплат, пенсій жыхарам розных рэгіёнаў краіны, на забеспячэнне абараназдольнасці Грузіі. Я не маю намеру цярпець у далейшым такія незаконныя дзеянні ўлад аўтаномнай рэспублікі",* — паведаміў грузінскі прэзідэнт.

Усе меры, якія прадпрымае зараз прэзідэнт Грузіі, прывядуць, відавочна, да эканамічнай блакады Аджарыі, кіраўніцтва якой, на думку Саакашвілі, выкарыстоўвае атрыманыя грошы па *"уласным меркаванні"*. Адзначым, што толькі ў 2003 годзе батумскі порт адгрузіў каля 7 мільёнаў тон нафты, а нафтапрадукты складаюць каля 70% усіх праходзячых праз Батумскі порт грузаў.

Эканамічная блакада часткі Грузіі, як адзначаюць эксперты, можа ў хуткім часе перайсці і да ўзброенага супрацьстаяння. Пакуль гэтага не здарылася, для мірнага вырашэння канфлікту прымаюцца пэўныя крокі. Напрыклад, Міхаіл Саакашвілі зараз вядзе актыўныя перамовы як з Вашынгтонам, так і з Масквой. У яго ўжо былі размовы з дзяржсакратаром ЗША Колінам Паўэлам і сакратаром Савета бяспекі Расіі Ігарам Івановым. Але, як адзначаюць тыя, хто працаваў калісьці ў гэтым рэгіёне, улічваючы выбуховы характар грузін, гульня мускуламі і "перацягванне фактаў" можа завяршыцца тым жа самым дзеяннем, але пад бразгат затвораў аўтаматаў Калашнікава.

Дзіўную пазіцыю, на маю думку, у апошнім закаўказскім канфлікце занялі расійскія сродкі масавай інфармацыі. На тэлеэкранах мільгаюць амаль выключна прадстаўнікі аджарскіх улад. Кіраўнік аўтаноміі **Аслан Абашыдзе,** які, як запраўскі карэспандэнт Грамадскага расійскага тэлебачання (ГРТ) у стылі "Аслан! Каця!", каменціруе канфлікт па тэлефоне, ускладваючы ўсю адказнасць за вынікі канфлікту, натуральна, на грузінскага прэзідэнта Міхаіла Саакашвілі. Міністр унутраных спраў Аджарыі **Джэмал Гогіцідзе,** гарцуючы з "калашнікавым" на экране ГРТ, з упэўненасцю заяўляе, што аджарцы змогуць адстаяць свае правы. Відавочна, з тымі ж "калашнікавымі". Пасля гэтага ідзе сюжэт пра мітынг у Тбілісі... так, так, у падтрымку "зняважанага" аджарскага народа.

Толькі забываюць чамусьці расійскія тэлежурналісты пра тое, што спачатку зняважылі, парушыўшы Канстытуцыю, законнага прэзідэнта Грузіі Міхаіла Саакашвілі, калі не пусцілі яго на тэрыторыю аўтаноміі, а потым фактычна пазбавілі слова патлумачыць па расійскім тэлебачанні сваю пазіцыю. Складваецца ўражанне, што расіяне паставілі на мэту эскалацыю канфлікту, а не найхутчэйшае яго пераадоленне. А пераадолець гэты канфлікт грузінскія ўлады, як бачна, хочуць як мага хутчэй. Ва ўсялякім разе да парламенцкіх выбараў у Грузіі, якія павінны адбыцца 28 сакавіка.

**Алесь СІЛІЧ.**

ПОДСЧИТАЕМ...

## Сколько стоит «Белтрансгаз»?

Известно, что наша страна оценила это стратегическое предприятие в 5 миллиардов долларов. Российский "Газпром" считает, что оно стоит не более 600 миллионов долларов. По этой причине и застопорились переговоры по поставкам российского голубого топлива в Беларусь и создание совместного газотранспортного предприятия на базе "Белтрансгаза".

Так сколько же стоит на самом деле "Белтрансгаз"? Известно, что в ближайшие месяцы ответ на этот вопрос должны дать независимые зарубежные оценщики. Пока же мы познакомим с интересными фактами, всплывшими в европейских СМИ. Года два назад международный консорциум в составе немецкого "Рургаза", французской компании "Газ де Франкс" и российского "Газпрома" за 49 процентов акций Словацкой газотранспортной компании выложили 2,7 миллиарда долларов. Таким образом, вся газотранспортная система Словакии была оценена примерно в 5,5 миллиарда долларов. Причем президент этой страны Рудольф Шустер заявил: *"Я за такую сумму не продал бы"*.

Нам трудно судить о возможностях словацкой газотранспортной системы. Но специалисты утверждают, что она прокачивает в Европу российского газа в три раза больше, чем белорусская. Хотя и короче последней. Чешская "газовая труба" оценена в 4 миллиарда долларов.

Любопытно, что российский "Газпром", по сообщению "Немецкой волны" и других СМИ Германии, скорее всего не имел денег на тот момент для покупки своей доли акций (на сумму миллиард долларов) и за него заплатили его западноевропейские партнеры с отсрочкой на пару лет до приема "Газпромом" окончательного решения: выкупает он словацкие акции или нет? Недавно эта отсрочка продлена еще на год.

Если это так, то что же получается? "Газпром" хочет купить акции белорусской газотранспортной системы в несколько раз дешевле, чем словацкой?

**Сергей ИВАНОВ.**

ЕСТЬ ИДЕЯ!

# Гром грянул, рак на горе свистнул...

У нас много и часто говорится о различного рода безопасностях — национальной, экономической, продовольственной, наконец, энергетической. Кругом опасности, которых надо остерегаться?



Когда же Россия перекрыла газовый вентиль, сразу все поняли: страна находится в энергетической опасности, т.е. в полной зависимости от одного поставщика природного газа. Западная Европа не может себе такого позволить и имеет альтернативные варианты, скажем, в виде норвежского газа. О том же позаботилась и Польша. Беларусь же посчитала, что голубое топливо будет поступать вечно и по дешевым ценам, как братскому народу.

Как известно, 80% нашего энергетического потребления приходится на природный газ, что с точки зрения его дешевизны по сравнению с другими видами энергоресурсов вполне рационально. Однако большинство стран никогда не считали и не считают Россию вполне надежным партнером-поставщиком по многим причинам. На сегодня наш могучий по размерам сосед не является стабильным государством.

Правительство Беларуси уже не в первый раз, думается, всерьез концентрирует свое внимание на местных источниках энергоресурсов, что видно из материалов очередного заседания президиума Совета министров. Только всерьез на скорейшее устранение однобокой ориентации государства в топливном балансе давно обращали внимание правительства и оппозиционные политики, и экономисты, и ученые, занимающиеся данными проблемами. Будем считать, что гром грянул, рак на горе свистнул.

В среднем за год в стране потребляется энергии в эквиваленте 33—35 млн. тонн условного топлива, и только 15% ее потребностей покрывается собственными ресурсами. На закупку недостающих энергоносителей и электроэнергии ежегодно расходуется порядка 2 млрд. долларов США, что составляет 30% в объеме всего импорта страны и делает экономику зависимой от внешних поставщиков.

Какие же у нас альтернативные местные ресурсные источники получения энергии и тепла? Они давно известны: прежде всего это древесина и торф. Можно иметь, конечно, в виду энергию ветра, строительство гидроэлектростанций, но торф и дрова, которыми отапливаются многие дома и хаты, все же более освоенные и известные ресурсы.

Объем производства торфяного топлива в нынешнем году намечено увеличить не менее чем до 1,5 млн. тонн против 1,08 млн. тонн прошлого года. Но если торф относится к исчерпаемым ресурсам и во многом они исчерпаны, то древесина при разумном ведении лесного хозяйства является возобновляемым ресурсом. Беларусь обладает возрастающим лесосырьевым потенциалом, каждый год на корню прирастает более 28 млн. кубометров древесины, а заготавливается около 12 миллионов кубометров.

Республика обладает и достаточно развитым лесозаготовительным и деревоперерабатывающим комплексом, на предприятиях которого образуется до 3,7 млн. кубометров отходов, и которые наряду с 4,5 млн. кубометров низкокачественной древесины могут быть вовлечены в ее топливно-энергетический баланс. Эта древесина в состоянии покрыть до 10% потребностей в энергетических ресурсах, против сегодняшних 3%. Так примерно говорят нам специалисты лесного комплекса страны и ученые Белорусского государственного технологического университета (БГТУ). При этом снижение затрат на критический импорт энергоносителей составит около 200 млн. долларов в год.

По сравнению с природным газом древесина хоть и дает меньше тепла при сжигании, зато щадит ландшафт (не надо прокладывать трубы), экономит земельный фонд, имеет меньшую вероятность экологических катастроф. А главное — она своя, в лесных древостоях, в отходах лесозаготовок и деревообработки. Леса занимают более одной трети территории страны.

Конечно, не все так просто — попробуй взять то, что лежит под ногами. Древесные отходы рассредоточены по территории, они не очень выгодны для транспортировки, зачастую стоимость их доставки превышает покупную цену на месте образования. Требуется и специальное оборудование для их доставки и сжигания. Капитальные затраты на установку нового и модернизацию существующего энергетического оборудования могут достигать 500 млн. долларов и больше. На фоне подорожания мировых цен на нефть и природный газ к рассмотрению древесины в качестве топлива наряду с сырьем для производства пиломатериалов, бумаги, картона вновь и своевременно вернулись такие развитые страны, как США, Канада, Германия, Швеция, Финляндия. И не только вернулись, а вполне успешно используют ее в этом направлении, диверсифицируя свое сырьевое потребление для выработки энергии и тепла.

Как писал русский поэт А. Некрасов: "Откуда дровишки? Из лесу, вестимо". Нашему правительству уже давно следует самым серьезным образом обратиться к заинтересованным ведомствам — концерну "Беллесбумпром", к восстанавливаемому Министерству лесного хозяйства да почитать научные отчеты и защищенные диссертации ученых БГТУ. Оно найдет там много интересного и полезного для скорейшего решения проблемы.

**Борис ЖЕЛИБА, профессор, доктор экономических наук.**

SOS!

# Ад пенсіі — да пенсіі

## ледзь зводзяць канцы з канцамі людзі, якія адпрацавалі 40 і болей гадоў

Пенсіянеры з трывогай глядзяць на каляндар: колькі там засталося да атрымання пенсіі? У мяне ж засталося да яе дзесяць тысяч, па паўтары на дзень. Аднак "пашанцавала", забалеў страўнік, то тры дні піў чай з цукром. Сэканоміў. А пазней "дацягваў". Варыў бульбу, купляў ліверку. Заваляўся кавалачак сала.

Заглянула суседка Люба.

— Пазыч, — просіць. — Мне хоць бы хлеба купіць.

Трэба выручаць, натрос ёй на буханку паўтысячы з капейкамі. У кішэні нічога не засталося. Як у калгасным свірне, пуста.

Так было і ў мінулым месяцы. Аддаў доўг 55 тысяч. Заплаціў за кватэру 46. Засталося крыху больш за 40 тысяч рублёў. Вось так і дадыбаў да палавіны "пенсійнага" месяца. А як далей? Бульба скончылася, макароны таксама. Вымушаны зноў пазычаць. Нялёгка пазычаць, цяжка аддаваць. А іншага выйсця няма. Хочаш не хочаш, а трэба браць. Добра, што ёсць спагадлівыя сябры-пенсіянеры.



А колькі ж неадкладнага набралася! Больш як дзесяць гадоў нічога значнага з адзення не купляў. Знасіліся кашулі, майкі. На зносе касцюм, абутак, непрыгодным стала пакрывала на канапу. У хімчыстку просіцца пінжак, у рамонт — тэлевізар. Яшчэ і дробязў нямала: абмяняць пашпарт, купіць пральныя парашкі, мыла, крэм для галення...

Не, відаць, не вылезці мне з гэтага жабрацтва ніколі. Так капітальна загналі.

Я параўнаў, што **мог купіць пенсіянер за сярэднюю пенсію ў 1990 годзе (132 рублі) і што магу купіць сёння я (165.000)**. У многіх жа пенсія значна меншая.

| Назва прадукта | 1990 г. | 2004 г. |
|---|---|---|
| Свініна | 61 кг | 39 кг |
| Бульба | 2000 кг | 330 кг |
| Хлеб (бух.) | 885 кг | 300 кг |
| Сыр | 43 кг | 24 кг |
| Каўбаса "Доктарская" | 66 кг | 24 кг |
| Масла | 37 кг | 33 кг |
| Селядцы | 83 кг | 43 кг |

Але ж не хлебам ды бульбай павінен быць жывы беларус. А пенсіянеры жывуць у асноўным імі. Не ведаю, як у каго, а ў маім рацыёне амаль адсутнічаюць рыба, птушка, гародніна, садавіна. Без іх жа якое можа быць здароўе?

Суседка раней даволі часта ездзіла прадаваць розныя шмоткі на Ждановіцкі рынак. Часам вярталася ні з чым, скардзілася, што не купляюць.

— Цяпер усе прадаюць, што маюць. На рынку чаго толькі не ўбачыш, а пакупнікоў мала. Усім патрэбны грошы.

Аднойчы і я падумаў: што прадаць? Павёў вачыма па пакоі. Няма нічога талковага. Раптам успомніў, што ў шафе вісіць новая цёплая куртка. Гады два таму жонка ўгаварыла купіць. Так і не ўбачыла мяне ў новай вопратцы (памерла). Я расклеіў у людных месцах некалькі аб'явак. Ахвотнікаў не знайшлося.

Нядаўна заходзіў да мяне даўні сябар. Сядзелі, гаманілі пра жыццё-быццё. Ён сказаў, што пачаў здаваць у букіністычны магазін кнігі са сваёй бібліятэкі, бо пенсіі не хапае на хлеб надзённы.

— А чаму табе не збыць тое-сёе? — прапанаваў ён. — Вунь колькі ў цябе кніг.

Бібліятэка ў мяне сапраўды вялікая. Збіраў шмат дзесяцігоддзяў. Але шкада развітвацца, пачакаю да яшчэ горшых часоў.

Безумоўна, нехта можа спытаць: "І не сорамна паказваць сябе ў такім непрыглядным святле?" Не, не сорамна. Беднасць жа — не загана. Мяне, як і многіх беларусаў, менавіта загналі ў жабрацтва ўлады.

У ашчаднай касе ў мяне захоўвалася каля дзесяці тысяч рублёў. Гэта, па афіцыйным курсе таго часу, прыкладна 12.000 долараў ЗША. Дзяржава гарантавала іх захаванне. Аднак... Ад урада Кебіча да сённяшняга ўрада ніхто пальцам не паварушыў, каб вярнуць скрадзеныя ў народа зберажэнні, хаця ў свой час абяцалі гэта зрабіць. Так я, адбухаўшы на працы сорак год, застаўся на старасці без капейкі. А пенсія... Яе пакупная здольнасць паказана ў табліцы вышэй. На яе можна праіснаваць паўмесяца. Менавіта — праіснаваць. А каб жыць больш-менш па-чалавечы, трэба мець на чалавека не менш як 500 тысяч рублёў, гэта — тры мае цяперашнія пенсіі.

**Мікалай ДЗЕЛЯНКОЎСКІ, пенсіянер.**

ЧУЛІ?

## «Лімбер» у Латвіі

Прадукцыя мінскага прадпрыемства "Лімбер", што спецыялізуецца на вырабе жаночага адзення, будзе рэалізоўвацца ў Латвіі. Дамоўленасць аб гэтым дасягнута падчас 12-й Міжнароднай выставы "Стыль і мода", якая днямі праводзілася ў Рызе.

Удзел у выставе ўзялі каля 120 кампаній з Расіі, Германіі, Францыі, краін Балтыі, а таксама мінскае прадпрыемства "Лімбер".

**Андрэй СЕРАДА.**

## 24 работнікі загінулі, 131 траўміраваны

У Беларусі ў студзені—лютым 2004 года ў выніку няшчасных выпадкаў на вытворчасці загінулі 24 работнікі. Гэта на 10 менш, чым за адпаведны перыяд мінулага года. Колькасць траўмаў з цяжкім вынікам павялічылася на 25 і дасягнула 131. Аб гэтым карэспандэнту БелТА паведаміў першы намеснік дырэктара дэпартамента дзяржаўнай інспекцыі працы Міністэрства працы і сацыяльнай абароны Уладзімір Ласкаўнёў.

Паводле яго слоў, асноўныя прычыны траўматызму з цяжкімі вынікамі — эксплуатацыя няспраўнага абсталявання, невыкананне тэхнікі бяспекі, парушэнне пацярпелымі працоўнай і вытворчай дысцыпліны. Уладзімір Ласкаўнёў адзначыў, што ў студзені—лютым з-за парушэнняў патрабаванняў аховы працы, якія ствараюць пагрозу жыццю і здароўю людзей, прыпынялася або забаранялася работа 9 цэхаў, 81 вытворчага ўчастка і амаль 2,5 тысячы станкоў, машын і іншага абсталявання.

## Затрыманы буйны валютны спекулянт

На гарадскім рынку Оршы праваахоўнымі органамі затрыманы 38-гадовы мясцовы жыхар (нідзе не працуе), які займаўся незаконным абменам грошай. Пры затрыманні ў яго было знойдзена амаль 2 мільёны беларускіх рублёў, 127 тысяч расійскіх рублёў, звыш 6 тысяч долараў ЗША, а таксама нязначныя сумы польскіх злотых і еўра. Усе валютныя сродкі ў мянялы канфіскаваныя, а на яго самога складзены пратакол аб адміністрацыйным правапарушэнні.

**Андрэй АЛЕКСАНДРОВІЧ.**

ВОСТРЫ ВУГАЛ

# Кватэры на... паперы

## Як прыдбаць жыллё? Вось пытанне, якое турбуе тысячы грамадзян. Толькі ў Мінску ў кватэрнай чарзе больш за 130 тысяч сем'яў.

Калі паслухаць афіцыйных прапагандыстаў, дык уладамі краіны нібыта прымаюцца пэўныя захады, каб палепшыць справу. Гэта, як кажуць, на паперы. А як на справе? Давайце прааналізуем вузлавыя аспекты жыллёвай праблемы ў Мінску.

### Бывай, «кватэрная халява»

Займець кватэру заўжды было цяжка. Раней многія стаялі ў чарзе 15—20 гадоў. Толькі ў сталым узросце можна было прыдбаць уласны кут. Праўда, атрымоўвалі "свой вугал" бясплатна. Гэта была хоць і далёкая, але рэальная перспектыва.

Хто не мог ці не хацеў доўга чакаць, мог уступіць у жыллёвы кааператыў. Тым больш што першы ўзнос быў параўнальна невялікім.

Цяпер жа разлічваць на бясплатную кватэру не прыходзіцца. Трэба самому зарабіць грошы на яе. Так, калі ў 1990 годзе за кошт рэспубліканскага і мясцовых бюджэтаў, сродкаў прадпрыемстваў і арганізацый было пабудавана 3731 тысяча квадратных метраў жылля, у 1994 годзе — 1898 тысяч квадратных метраў, дык у 2002 годзе — толькі 219 тысяч квадратных метраў. У тым жа далёкім 1990 годзе ўдзельнікі жыллёвых кааператываў і індывідуальныя забудоўшчыкі аплацілі будаўніцтва 1048 тысяч квадратных метраў жылля, у 1994 годзе — ужо 1170 тысяч квадратных метраў, а ў 2002 годзе за сродкі насельніцтва і ўзятыя ім крэдыты ўзведзена 2142 тысячы квадратных метраў жылля.

Як бачым, зведзена да мінімуму будаўніцтва жылля дзяржавай. Гэта перакладзена ў асноўным на плечы грамадзян. Але ці пад сілу такая ноша простаму беларусу?

### І да пенсіі не паспееш

Цэны на кватэры імкліва растуць. Год таму кошт квадратнага метра быў каля 450 долараў, цяпер пераваліў за 550. Канешне, будуецца жыллё і па 300—320 долараў за метр. Але для тых, хто ў афіцыйнай чарзе. Ва ўпраўленні капітальнага будаўніцтва Мінгарвыканкама прымаюць заяўкі ад тых, хто стаў у чаргу яшчэ да 1990 года. Так што калі вы жадаеце займець кватэру па такой цане, дык варта ісці ў райвыканкам, становіцца на ўлік і чакаць чаргі 10—15 гадоў.

Калі ж хочаце прыдбаць цяпер, дык прыкіньце свае рэсурсы. Трохпакаёвая кватэра (каля 100 кв.метраў) у новым сучасным доме каштуе ледзь не 50 тысяч долараў. Калі ўлічваць, што сярэдні заробак у краіне пераваліў за 100 долараў у месяц, дык маладая сям'я можа з цяжкасцю адкладваць на жыллё гэтыя сто долараў. На адну зарплату (мужа ці жонкі) сяк-так перабівацца з хлеба на малако, а другую — складваць у панчоху. Значыць, за год можна адкласці тысячу дзвесце долараў, за 10 год — 12 тысяч, за 30 — 36 тысяч. Да 50 тысяч яшчэ далекавата. І гэта пры ўмове, што маладыя будуць жыць у бацькоў і не плаціць высокія камунальныя плацяжы.

Такім чынам, маладыя і да пенсіі не змогуць займець добрую кватэру. Застаецца другасны рынак жылля. На ім двухпакаёўка, якая патрабуе вялікага рамонту, каштуе каля 25 тысяч долараў, трохпакаёўка — каля 30—35 тысяч долараў. Так што і яе вельмі цяжка купіць маладой сям'і. Давядзецца каля дваццаці гадоў кепска харчавацца і апранацца, адмаўляць сабе ва ўсім, каб сабраць грошы хоць на двухпакаёўку. А яшчэ ж патрэбны сродкі на яе рамонт, мэблю. Адна надзея на тое, што, мабыць, жыллё стане больш танным?



### Ці спыняцца цэны?

Наўрад. Яны скачуць таму, што пакупнікоў больш, чым прадаўцоў. Жылля будуецца мала, а жадаючых займець кватэру шмат. У тым жа Мінску летась атрымалі жыллё 8,4 тысячы сем'яў, а стала на ўлік 11 тысяч. Цяпер у сталічнай чарзе больш як 130 тысяч сем'яў. А пабудавалі летась толькі 592 тысячы квадратных метраў жылля.

У цэлым па краіне дынаміка такая. Калі ў 1990 годзе было ўведзена 5282 тысячы квадратных метраў агульнай плошчы жылля, дык у 2002 годзе — 2825 тысяч квадратных метраў, або амаль у два разы менш. А колькасць маючых патрэбу не паменела. Вось і выраслі цэны.

Ёсць і іншыя прычыны. Асабліва вялікі попыт на аднапакаёвыя і двухпакаёвыя кватэры. Яно і зразумела, на большыя ў людзей проста няма грошай... А будуюць больш чамусьці трох-чатырохпакаёвак. У выніку першыя купляюць яшчэ да таго, як выкапаюць катлаван, а другія, вялізныя, пустуюць і пасля засялення дома.

Спецыялісты кажуць, што шкодзіць справе рашэнне ўрада аб забароне продажу кватэр, пабудаваных за кошт льготнага крэдыту, на працягу трох год пасля выплаты крэдыту. У выніку яны не трапляюць на другасны рынак жылля. А гэта ж у асноўным аднапакаёўкі і двухпакаёўкі. З-за гэтага іх катастрафічна не хапае і растуць цэны. Яны яшчэ растуць і з-за таго, што пастаянна павышаюцца кошты новых пабудаваных кватэр. Яны ўжо такія, што не па кішэні ні сярэдняму класу, ні бізнесменам. Таму і гэтыя катэгорыі грамадзян "спускаюцца" на другасны рынак жылля і павялічваюць попыт на яго.

А калі расце попыт, дык знікае спадзяванне, што цэны будуць станавіцца больш таннымі.

Варта нагадаць, што павышаюцца патрабаванні да якасці жылля. Пры праектаванні ўжо закладваюцца сучасныя рашэнні. Скажам, у дамах манціруюцца аўтаматычныя лічыльнікі расходу электраэнергіі, больш сучасныя і надзейныя ліфты, шклопакеты, якія зніжаюць страты цяпла і паляпшаюць гукаізаляцыю... Усё гэта, вядома, добра, але за падобныя даброты прыходзіцца плаціць. Паколькі якасць жылля будзе паляпшацца і ў далейшым, дык і кошт яго таксама будзе павялічвацца.

### Маскоўскі аспект

Да беларускага жылля моцна прыглядваюцца расійцы. Кажуць, што многія з іх ужо купляюць беларускія кватэры, нават не гандлюючыся. Бо ў Маскве яны намнога даражэйшыя. Там квадратны метр жылля каштуе 1590 долараў, а ў цэнтры Масквы, у прэстыжных мясцінах цэны ў некалькі разоў большыя. Сёлета чакаецца падаражанне жылля ў Белакаменнай яшчэ на 40—50 працэнтаў.

Калі ж будуць працягвацца інтэграцыйныя працэсы і Беларусь ўвядзе ў сябе расійскі рубель, тым больш, калі ўз'ядналюцца ў адну дзяржаву, дык ёсць апасенне, што расіяне проста скупяць усе дабротныя кватэры. Для іх нашы цэны — не грошы. А калі яны будуць авалодваць беларускімі прадпрыемствамі, дык ім неабходна будзе сяліць тут сваіх менеджэраў. Так што яны могуць яшчэ больш узвінціць цэны на беларускае жыллё.

### Указ ёсць, ці вырашыцца праблема?

Днямі Аляксандр Лукашэнка выдаў Указ "Аб дадатковых мерах па жыллёвым будаўніцтве на вёсцы і аб крыніцах яго фінансавання". Ім павялічваецца тэрмін пагашэння раней выдадзеных крэдытаў на будаўніцтва жылля ў сельскай мясцовасці з 10 да 40 гадоў з захаваннем працэнтнай стаўкі ў памеры 5 працэнтаў.

Сказана, што падтрымка ў жыллёвым будаўніцтве будзе аказана і некаторым іншым катэгорыям грамадзян. Так, для мнагадзетных сем'яў, грамадзян населеных пунктаў з колькасцю жыхароў да 20 тысяч чалавек, а таксама ваеннаслужачых і другіх асобах, звольненых з ваеннай службы па ўзросце, стане здароўя ці скарачэнні штатаў і членах іх сем'яў указам Аляксандра Лукашэнкі зменены ўмовы крэдытавання пры будаўніцтве, рэканструкцыі і набыцці жылля. Шматдзетныя сем'і маюць права на нечарговае ўключэнне ў спісы грамадзян, якія маюць патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў, маюць таксама права на льготны крэдыт, аднаразовую бязвыплатную субсідыю на будаўніцтва ці набыццё жылога памяшкання. Прымаецца шэраг іншых мер па паляпшэнні вырашэння жыллёвай праблемы для згаданых катэгорый грамадзян.

Указ ёсць, але ці вырашыцца праблема? Для поспеху ў гэтай справе патрабуецца павялічваць будаўніцтва жылля. Між тым многія беларускія будаўнікі ўжо працуюць у Маскве. Не так даўно расійскія СМІ паведамілі, што ў Маскве разглядалася пытанне аб нарошчванні экспарту беларускіх будаўнічых матэрыялаў на расійскі рынак. Пачатак сёлетняга года не парадаваў будаўнічымі тэмпамі. Так, у студзені ўведзена ў дзеянне 314 тысяч квадратных метраў жылля. Гэта складае толькі 95,6 працэнта да студзеня мінулага года.

У Мінску, як вядома, павялічваецца будаўніцтва жылля. Калі летась яго здадзена 592 тысячы квадратных метраў, дык сёлета плануецца — каля 740 тысяч. А ў 2005 годзе ў сталіцы збіраюцца пабудаваць 800 тысяч "квадратаў". Гэта пакуль толькі планы ці "кватэры на паперы". Але і іх мала. Каб зрушыць да лепшага праблему, трэба штогод у Мінску будаваць не менш за мільён квадратных метраў жылля ды на працягу пяці-дзесяці гадоў. Інакш для асноўнай масы чакаючых асобная кватэра так і застанецца недасягальнай марай.

**Алесь ДРАБЧУК.**
**Фота ByMedia.net**

МНЕНИЕ

*Виктор ГЕРАЩЕНКО:*

## Берегите доллары и забудьте про евро

Доллар должен укрепиться к ноябрю этого года, когда в США состоятся президентские выборы, а к 2005 году он сравняется с евро. Как сообщает РБК, так считает бывший глава Российского Центробанка Виктор Геращенко. Поэтому, советует он, доллары продавать не стоит, а евро покупать уже поздно.

Геращенко в своем прогнозе ссылается на мощь американской экономики, поскольку валовой внутренний продукт США составляет 60 процентов от мирового ВВП. Несмотря на огромный бюджетный дефицит, который превысит в этом году 500 миллиардов долларов, глава Федеральной резервной системы США Алан Гринспен настроен оптимистично в отношении перспектив устойчивого экономического роста.

ФАКТ

## Миллиардеры России

Россия вошла в тройку стран, лидирующих по числу миллиардеров, свидетельствует традиционный список богатейших людей мира, составленный американским деловым журналом Forbes. По этому показателю Россию опережают только США и Германия.

Богатейшим человеком планеты снова, седьмой год подряд, признан основатель и владелец корпорации Microsoft Билл Гейтс: его состояние сейчас оценивается в 46,6 млрд.долларов. На втором месте с 42,9 млрд.долларов остался Уоррен Баффет, владеющей инвестиционной группой Berkshire Hathaway.

В список входят 587 миллиардеров, из них 64 попали в него впервые. Дебютантом стала, в частности, автор книг о Гарри Поттере британская писательница Джоан Роулинг, заработавшая более 1 млрд.долларов. Она находится на 52-м месте. Средний возраст миллиардеров в мире — 64 года, 27 из них моложе 40 лет.

Среди 25 российских миллиардеров первое место занимает акционер "ЮКОСа" Михаил Ходорковский с 15 млрд.долларов (это 16-й показатель в мире), затем следует Роман Абрамович с 10,6 млрд.долларов, Михаил Фридман с 5,6 млрд., Владимир Потанин с 4,9 млрд., Михаил Прохоров с 4,8 млрд., Владимир Лисин с 3,8 млрд.долларов. В этом году от России в список вошли 8 новых миллиардеров.

**ИНТЕРФАКС.**

## З цукеркамі ў Японію

У Токіо з візітам знаходзілася дэлегацыя кіраўніцтва СП ААТ "Спартак", ААТ "Камунарка" і ААТ "Слодыч". Мэтай візіту была прэзентацыя прадукцыі фабрык на Міжнароднай выставе прадуктаў харчавання "Фудэкс-2004".

Падчас сустрэч была дасягнута дамоўленасць аб вывучэнні магчымасці паставак беларускай прадукцыі ў Японію праз дылерскую сетку спецыялізаваных японскіх кампаній.

Узоры прадукцыі СП ААТ "Спартак", ААТ "Камунарка" і ААТ "Слодыч" будуць прадстаўлены на аб'яднаным стэндзе Рэспублікі Беларусь падчас выставы "Інтэкс Фэста", якая пройдзе ў Осаке 1—4 мая.

**Андрэй СЕРАДА.**

КРИМИНАЛ

# ...Из-за 10 долларов,

## или Особенности белорусского секс-бизнеса

У нас можно встретить публикации о "жрицах любви" с улицы Тверской в Москве или о кварталах с красными фонарями в западноевропейских городах. Но почти нет зарисовок из местной жизни на такую щекотливую тему. Может сложиться мнение, что секс-бизнес обошел стороной Беларусь. Но так ли это?

В прошлом году в Минском городском суде рассмотрено дело, которое приоткрывает завесу над этой проблемой. Послушаем откровения юной девушки, которые она излагала в ходе следствия и судебного разбирательства. Назовем ее Ритой.

25 апреля 2002 года примерно в десять часов вечера она приехала к Минскому цирку. Здесь уже собрались подруги, которые оказывали интимные услуги за плату. Среди них была и Надя — так назовем вторую.

Через некоторое время подкатила автомашина "Волга"-такси. Из нее вышел наглядно знакомый Евгений. К нему подошла Надя, и они стали договариваться. Вскоре она подозвала Риту и предложила поехать вместе с Евгением. Девушка согласилась. По предложению Евгения поехали на квартиру по проспекту Рокоссовского. По дороге Надя сообщила, что услуги будет оказывать Рита, а она, так сказать, будет дежурить.

Схема оказания интимных услуг клиентам, со слов Риты, была такова. К месту выезжали две девушки. Одна из них оказывала услуги, а вторая забирала у клиента деньги и подстраховывала на случай возникновения конфликтной ситуации.

Хозяйка квартиры приняла их, показала комнату, отведенную для них... Получив свое, Евгений оделся и ушел. Стала одеваться и Рита. Как только она оказалась в коридоре, из зала вышла хозяйка квартиры и стала требовать плату за аренду комнаты в сумме 10 долларов. Рита ответила, что деньги у Нади, которая заплатит. Но хозяйка загородила собой выход и требовала деньги.

Через какое-то время в дверь стала звонить Надя. Впустив ее в коридор, хозяйка стала предъявлять свои претензии по оплате. Надя отказывалась платить. Возникла ссора, переросшая в потасовку. Они обменивались ударами. Вскоре хозяйка упала на пол, а Надя стала избивать ее руками и ногами по различным частям тела. Потерпевшая пыталась встать, но от ударов валилась на пол. К избиению ее присоединилась и Рита. Когда лежащая на полу хозяйка перестала шевелиться, они вышли из квартиры.

Рита остановила такси и уехала домой, а Надя осталась стоять на проспекте Рокоссовского.

Забегая вперед, сообщим, что в приговоре суда по этому эпизоду сказано следующее: около двух часов ночи, будучи в состоянии алкогольного опьянения, на почве личных взаимоотношений, в ходе ссоры, возникшей по поводу неуплаты 10 долларов за пользование комнатой, девушки нанесли потерпевшей не менее 24 ударов руками и ногами по голове и другим частям тела, оставив последней кровоподтеки и ссадины на коленных суставах, раны на голове, что повлекло перелом костей свода и основания черепа. Жертва скончалась на месте.

Вот такая трагедия из-за 10 долларов. Не будь ее, мы, видимо, так и не узнали б подробностей минского секс-бизнеса.

А теперь снова вернемся к откровениям Риты. На следующий день, когда в десять часов вечера она приехала к цирку, к ней подошла Надя и попросила взять на себя вину за убийство. Дескать, ты несовершеннолетняя, тебе много не дадут, а у меня на руках ребенок. Ей стало жалко Надю, поэтому вначале говорила, что она была лишь соучастницей. Но позже решила, что каждый должен нести ответственность за себя.

Надя излагала свою версию. Согласно ей, она не стала ждать Риту, поскольку клиент показался порядочным, и сразу уехала домой. Так что в квартиру не заходила, никаких преступлений не совершала. Но у суда, изучившего все факты и тонкости дела, сложилось иное мнение. Рита получила девять лет лишения свободы с отбыванием наказания в воспитательной колонии, Надя — четырнадцать с отбыванием срока в колонии строгого режима.

Но точку ставить рано. Думается, читателей заинтриговала Рита и аренда комнаты. Мать девочки объясняла, что Рита воспитывалась в трудных условиях. Часто уходила из дома, пропускала занятия в учебных заведениях. Неоднократно вызывалась на заседания комиссии по делам несовершеннолетних. Вот такая дорожка привела ее к зданию цирка.

Дочь погибшей поясняла, что ее мать зарабатывала на жизнь тем, что сдавала комнату в аренду на сутки. А ее соседка дополняла, что женщина жила одна, спиртные напитки не употребляла, сдавала комнату, чтобы немного подзаработать. Часто рассказывала, какие клиенты ночевали у нее.

Дочь часто звонила матери. Последний разговор состоялся днем. На следующий день трубку в квартире никто не снимал. Попросила соседку, которой мать оставляла ключи, выяснить, в чем дело. Через некоторое время та сообщила, что произошло несчастье. Приехала и обнаружила мать мертвой. У нее была разбита голова.

Из-за чего трагедия? Из-за десяти долларов, каких-то двадцати с хвостиком тысяч белорусских рублей. Жестокий все-таки секс-бизнес.

**Андрей РУСАКОВИЧ.**

ТРАДЫЦЫІ

## «Гэй, вясна, гэй, красна!»

Старажытныя народныя абрады, звязаныя з абуджэннем зямлі ад зімовага сну, шануюцца ў народзе і зараз. Вясной селяніна чакае шмат працы, а без добрага душэўнага зараду які ж плён? Вось і выходзяць людзі, пачуўшы подых цеплыні і галасы птушак з выраю, за ваколіцу, вітаючы песнямі, абрадавымі дзеяннямі, карагодамі, заклікамі доўгачаканую пару:

*Гэй, вясна!*
*Гэй, красна!*

Ласкавымі словамі сустракалі здаўна вясну-прыгажуню, вясну-карміліцу, вясну-весялунню нашы продкі:

*Ой, вясна-вяснулечка,*
*Ой, вясна-красулечка,*
*А што ты нам вынесла:*
*А ці сырчыку, а ці маслейка,*
*А ці добрага шчасцейка?*

Як на Масленку, так і на Гуканне вясны спальвалі пудзіла Зімы. На Пасожжы і беларускім Падняпроў'і існуе звычай спальвання кола, прымацаванага да плыта на вадзе. Вогненнае кола сімвалізавала Сонца, якое абагаўлялася нашымі прашчурамі-язычнікамі. У некаторых мясцінах Беларусі моладзь дзялілася на дзве-тры купкі, выбірала падсохлыя ўзгоркі і, папераменна падаючы свае галасы, заводзіла:

*Ой, вясна-маці,*
*Хадзі к нам гуляці!*
*Хадзі к нам гуляці!*
*Карагод спраўляці!*

Беларускія абрады “Гукання вясны” вельмі багатыя на прыказкі, песні, дзействы, звязаныя з чаканнем будучага ўраджаю.

*А памажы, Божа,*
*Вясну-красну клікаць*
*На ціхае лета,*
*На спелае жыта.*
*А дай жа ты, Божа,*
*На стале сыцію*
*Ды к добраму жыццю!*

“Страчанага вясною дня не купіш”, — народная мудрасць не губляе свайго глыбіннага сэнсу і зараз. “Вясну хваляць за сонца і дождж, а лета — за снапы і вазы”, “Багата вясна кветкамі, а лета — палеткамі”, дайшло да нашых дзён.

Паслухайце: мо і ў наваколлі вашай вёскі чуваць галасы вясновай радасці? Далучайцеся да іх, а потым, з добрым настроем, — за старанную працу!

**Мікола КОТАЎ,**
**фалькларыст.**

ДЕЛО №...

## Криминальная пена «Крыніцы»

*Материалы проверок Комитетом госконтроля и УБЭП финансово-хозяйственной деятельности ОАО “Крыніца” послужили основанием для возбуждения нескольких уголовных дел.*

В частности, в халатности подозреваются некоторые должностные лица предприятия, которые “ненадлежаще выполняли свои служебные обязанности, что повлекло по неосторожности причинение ущерба в особо крупном размере”.

В другом уголовном деле основным фигурантом является бывший генеральный директор ОАО “Крыніца” **Владимир БОДРОВ.** Ему инкриминируется превышение служебных полномочий. По предварительным данным, Бодров с января 2001-го по февраль 2003 года незаконно выплачивал денежные вознаграждения коммерческим структурам. Ущерб предприятию превысил 907 миллионов рублей.

Свобода бывшего гендиректора пивзавода ограничена подпиской о невыезде.

## Все на борьбу с коррупцией?

*В подстрекательстве и получении взятки подозреваются заведующий отделением экстракорпоральной детоксикации 9-й клинической больницы Минска* **А.СТАРОСТИН** *и заведующий поликлиническим отделением тубдиспансера №1* **А.ХАНЕВСКИЙ.**

Медиков задержали с поличным в рабочем кабинете после получения пяти тысяч долларов от 22-летнего минчанина. По версии предварительного следствия, именно за такую сумму врачи должны были признать молодого человека не годным для призыва на срочную службу.

Судя по тому, что уголовное дело возбудили только в отношении заведующих, взяткодатель, согласно действующему законодательству, “добровольно заявил о содеянном”, что его и освободило от уголовной ответственности. Но никак не от службы в армии. В таком случае непонятно, зачем было подставлять медиков? Не попахивает ли здесь провокацией на фоне объявленной президентом тотальной войны с коррупцией?

К месту заметить, только белорусской милицией в прошлом году было возбуждено свыше тысячи трехсот уголовных дел по статье УК 430 “Получение взятки”, однако до суда дошло менее двухсот дел.

**Виталий ЧИЖОВСКИЙ.**

## Задохнулся под... сахаром

*Стало ли пренебрежение техникой безопасности причиной гибели Вячеслава П., рабочего-транспортировщика ОАО “Жабинковский сахарный завод”, предстоит выяснить следствию. Рабочий задохнулся под горой сахара-сырца.*

Его тело обнаружили другие рабочие, находившиеся на складе предприятия, где хранится так называемый продукт первичной переработки — сахар-сырец. Они заметили руку, торчащую из сахарной массы. Помощь пришла слишком поздно: Вячеслав П., 30-летний отец двоих детей, был уже мертв.

На заводском складе обычно хранится до 10 тысяч тонн сахара-сырца. Оттуда по транспортерам он поступает в цеха предприятия для дальнейшей переработки. За непрерывностью процесса транспортировки следят рабочие. По их рассказам, иногда люки на складе забиваются, и тогда они, в нарушение техники безопасности, пытаются вызвать эффект сыпучести, забираясь на сахарную “горку” и попросту прыгая на ней.

*praca-by.info*

КРЫМІНАЛ

## Выкінутая з 8-га паверха

*Як ужо паведамляў БелаПАН, жанчыну выкінуў з акна 21-гадовы віцебскі рабочы. Знаёмства жыхара Віцебска з 40-гадовай жанчынай пачалося каля месяца таму. Тады хлопец запрасіў яе да сябе на кватэру, аднак раніцай убачыў, што разам з госцяй зніклі скураная куртка і грошы. У міліцыю жыхар Віцебска вырашыў не звяртацца.*

У мінулыя выхадныя малады чалавек зусім выпадкова зноў сустрэў старую знаёмую. Ён запрасіў яе да сябе дадому і пасля прыняцця значнай колькасці спіртнога стаў патрабаваць вярнуць выкрадзенае. Жанчына адмовілася, і тады хлопец выкінуў знаёмую ў расчыненае акно.

Думаючы, што госця загінула, малады чалавек паспрабаваў збегчы, аднак быў затрыманы недалёка ад свайго дома работнікамі міліцыі, якіх выклікалі суседзі. Аператыўна выкліканыя медыкі канстатавалі ў пацярпелай траўму грудзей і чэрапна-мазгавую траўму, якія не ўяўляюць небяспекі для жыцця. Пасля падзення з 8-га паверха яна нават здолела апазнаць свайго “кідальніка” і цяпер у дачыненні да яго ўзбуджана крымінальная справа за замах на забойства.

**Андрэй АЛЕКСАНДРОВІЧ.**

ПАМЯЦЬ

# Пах зямлі



*Віктар ГОВАР*

*Беларускага пісьменніка Віктара Говара незаслужана мала ведаюць у нашай краіне. Быў у яго цікавы раман* ***“Пялёстак і крышталь”****, выпушчаны ў 1990 годзе выдавецтвам “Мастацкая літаратура”, былі глыбокія публікацыі аб народным мастацтве, але крытыка абыходзіла належнай увагай гэтага неардынарнага чалавека і творцу. А ён пісаў, і нямала, з пары маладосці, якая прыпала на 50—60-я гады ўжо мінулага веку, працаваў у рэдакцыі газеты “Літаратура і мастацтва”, дзе, па ўспамінах самога В.Говара, у калідорах і пакоях сустракаліся надзвычай яркія людзі з кагорты, як зараз кажуць, “шасцідзесятнікаў”.*

*Лёс многіх твораў пісьменніка незайздросны. Іх канфіскоўвалі спецорганы, іх не пускалі ў друк, але, на шчасце, тое-сёе цудам усё ж ацалела і зберaглося.*

*Лічу, мне пашчасціла, што ў свой час, калі я працаваў рэдактарам ў выдавецтве “Мастацкая літаратура”, гэтае “тое-сёе” з захаванага легла на мой рабочы стол. То былі аповесць “КАЛІ РАВУЦЬ БЫКІ” і раман-апокрыф “КОЛА”. З напругай і хваляваннем душы і розуму чытаў я гэтыя творы, спасцігаючы іх няпрасты, часта метафарычны, нават завуаляваны сэнс. Здаецца, рукой аўтара вадзіла Нешта ці Нехта з недасяжных прастору вока вышыняў, бо скуль жа такая празорлівасць, бачанне на дзесяткі гадоў наперад? Ён пачынаў пісаць гэтыя творы даўно, а напісаў акурат тое, што мы маем сёння — духоўную дэградацыю і спустошанасць у грамадстве, бясконцыя прыродныя і тэхнагенныя катаклізмы.*

*...Рукапіс, падрыхтаваны і нават набраны ў друкарні яшчэ на пачатку 90-х, так і не пабачыў свет. Як не дзесяць гадоў чакаў Віктар Антонавіч свята пабачыць свае найбольш грунтоўныя творы ў кнігарнях Беларусі, гісторыю якой гэтак глыбока ведаў і шанаваў, якой прысвяціў шмат якія свае працы.*

*Жыццё ягонае склалася так, што непажаданы для мясцовых улад пісьменнік змушаны быў з'ехаць з роднага кута і самыя творча плённыя гады правесці ў Маскве. Там ён шмат працаваў у архівах, папаўняючы свае веды, бясконца, да апошняга дня, перарабляў ранейшыя рэчы, пісаў новыя. І па-за межамі Радзімы ён не згубіў свой дадзены Богам талент, бо жыў Бацькаўшчынай, яе мінулым і будучым, яе невычэрпнымі духоўнымі скарбамі, якія імкнуўся не толькі захаваць, а і прымножыць.*

*Віктар Говар піша і публікуе артыкулы пра старадаўняе і сучаснае мастацтва, таленавітых творцаў. І яго самога можна з поўным правам залічыць у іх кола. Адораны рознымі талентамі пісьменнік меў і яркі мастацкі дар: з несумненным поспехам займаўся разьбой па дрэве, ляпіў гліняныя цацкі, вырабляў адмысловыя ювелірныя вырабы, здымкі якіх змяшчае энцыклапедыя... А яшчэ — спяваў у беларускім хоры беларускага зямляцтва ў Маскве, выдаваў часопіс “Я строю дом”, вёў на расійскім тэлебачанні праграмы “Домашняя академия” і “Дело мастера боится”... І ўсё ж галоўным для яго была проза, дзе ён вольна пачуваў сябе як мастак і мысляр.*

*Больш за год таму Віктара Антонавіча не стала. Не дачакаўся ён кніжкі, выдадзенай у Маскве ў 2000 годзе, на роднай мове. Адзін з салідных маскоўскіх часопісаў пісаў пра яго: “Мы згубілі таленавітага пісьменніка, мастака, мастацтвазнаўцу, журналіста... Ад глыбы Чалавецтва адкалоўся светлы, крышталёва чысты кавалак, і гэтую страту нічым не папоўніш”.*

*Ён завяшчаў пахаваць яго на роднай беларускай зямлі, якой жыў і дыхаў, пахі якой адкрывалі яму ее душу. А кніга прозы Віктара Говара на матчынай мове, дзякуючы намаганням яго сям'і і сяброў, у хуткім часе, нарэшце, пабачыць свет, і ты, шаноўны чытач, зможаш годна ацаніць яе.*

*А пакуль прапануем прачытаць невялічкі ўрывак з рамана Віктара Говара “КОЛА”, у якім пераплецены гісторыя і сучаснасць, ява і фантазія, узвышанае і зямное.*

**Алесь РЫБАК.**

# Дома

Я прачнуўся ў гумне на сене. Узыходзіла сонца. Скрозь шчыліны імкнулі стромкія, што струны, промні. Яны былі напружаны з такой моцай, што, здавалася, са звонам лопнуць. Глядзеў, як гэты дзіўны музычны струмант згодна рухаўся па высокай падгуменнай прасторы і нячутна граў урачыстую мелодыю.

Да мяне таксама прыйшоў прамень. Рассек яго далонню. Ён нават не здрыгануўся. Перапыніў яго далонню і асвятліў падстрэшша. У прамень уплыла тонкая павуцінка і заззяла. Мне захацелася пачуць, як пахне прамень. Пакратаў яго пальцам, каб ён злёгку дзынкнуў, потым нахіліўся і панюхаў. Спачатку нічога не пачуў. Пахла сенам, сырадоем, крышку хваёвым лесам, што ціхутка шумеў за гумном. Але раптам пачуў нязвыклае. Далікатны пах. Пачуў пах спякотнага дня, пах халаднаватага ценю. Не паверыў, нахіліўся і панюхаў яшчэ раз.

У гэты дзень усё было пахучым. Увайшоў у хату і ўспомніў — яшчэ малым быў і адчуваў гэтыя пахі — водар свежага хлеба, сырадою, варанай бульбы і яшчэ нечага многага іншага. Кожная рэч мае свой пах. Кубак, ручнік, печка, швейная машынка, на якой бацька з раніцы ўжо нешта страчыў, мелі пах акно, падлога, стол, столь. І куды ні паверну вочы, мяне страчаў прыемны, вядомы з дзяцінства пах.

— Ты чаго, Сцёпа, табе нядужыцца?

Усміхнуўся маці, пахмурыў бровы і сказаў сур'ёзна:

— Я слухаю пахі.

У маёй маці ласкавыя вочы, у маёй маці ад бясконцай працы і многіх гадоў дрыжаць рукі. Заўсёды бачу яе вочы і яе рукі. Вочы крыху журботныя, добразычлівыя і з усмешкай. Чаго толькі мы, малыя, не вычварaлі! А яна толькі ціха і ласкава ўсміхалася. Колькі патрэбна добразычлівасці! Ведаю па сабе. Калі мой сын пачынае кудзесіць, цярпенне маё канчаецца, мне хочацца перапыніць яго. Але я ўспамінаю маці, яе вочы, і ведаю, мае вочы таксама становяцца ласкавымі і добрымі.

У маёй маці дзівотныя рукі. Яны не ведаюць, што такое праца асобна і рукі асобна. Рукі — гэта праца. І робяць яны адразу так многа. Вымаюць патэльню з блінамі з печы, падаюць мне смятану, сякуць зелле і бульбу свінням, абіраюць бульбу. Спадцішка разглядаю свае рукі. Божачкі! Да такіх рук, як у маці, ім яшчa расці ды расці. Рукі маці пахнуць працай. Ад такога водару кружыцца галава.

— Я слухаю пахі, мама.

Маці ведае, я жартую.

— Садзіся есці, зараз машына на падыдзе.

Яна пра грузавік, які развозіць нас па нівах.

Я чую пах пшанічных бліноў, пах смятаны. І пах хлеба, і пах швейнай машынкі. Нюхаю блінцы і ўсміхаюся. Мая маці добрымі вачыма ўсміхаецца мне.

— Трыфан, — кажа яна бацьку, — ідзі паглядзі, Сцёпа сёння толькі нюхае бліны.

Падыходзіць бацька, усміхаецца ў вусы. У яго такія ж, як і ў маці, лагодныя блакітныя вочы.

— О, цябе лепш карміць, чымся адзяваць, — кажа.

— Ты блінцы панюхай.

— Дык я чую. Думаеш, не чую? Там шыю і чую.

— А як машынка пахне, чуеш?

— Чую.

— І як печка?

— Чую.

Недаверліва гляджу на бацьку. Вядома, скірызуецца.

— Не, ты паслухай!

— Даўно чую. Калі ты быў малым, то я добра чуў. А тады казаў тваёй маці: паслухай, які водар ад блінцоў. А яна смяялася.

П'ю малако, даядаю бліны, выходжу на дарогу. Чакаю машыну. І тут на мяне накідваюцца пахі. Пахне хваёвы лес. У кожнай хвойкі свой пах. І ў кожнага лесу свой. І той жа лес вылучае розны водар ля дарогі, у гушчары, на палянцы. А вось машына, яна нясецца па лясной дарозе як па лепшай аўтастрадзе, ледзь прымаруджвае ходу — я ўлятаю ў кузаў. Там такія, як я, вясёлыя морды.

— Здарова, хлопцы!

Хлопцы пахнуць маладосцю, сілай і мазутай. Але гаварыць немагчыма, трэба мацней трымацца. Шурык прэ машыну, як танк, яна лётае з карча на корч. Ляціць насустрач густое паветра, аж дых захлынае, ляціць сасновае голле, ляціць сонца. Мы ўсе скачам у кузаве і смяёмся. Хто не любіць хуткасці! Мы на трактарах — і то ціснем на ўсю педалю. Дзівосны пах мае хуткасць! Так што захлынаешся, як у халоднай вадзе спякотным днём, дыху ўжо няма, так яна пахне.

Вырываемся на ніўны прастор. Да паху хуткасці дамешваецца нязнанай гушчыні жытні пах. Валіць з ног. Ужо не дыхаеш. Уцягнуў паветра і заміраеш, хапае на многа метраў шляху. Калі скажуць мне, што ёсць планеты, істоты якіх жывяцца пахамі, — паверу.

Шурык тармозіць, і я выляцаю з кузава. Вакол — зялёнае поле. Гаспадарамі тут мы з трактарам. У нябёсы кідаюцца жаўрукі — з такім адчайным пошчакам, што, здаецца, хочуць прабіць блакіт. Паднімаю галаву і слухаю неба. Ловяць мае ноздры пах бездані, пах халоднага космасу, пах зорак. Водар неба. Высокія звінючыя пахі. Навальніцай узрушыў неба рэактыўны самалёт і знік, а жаўрукі кідаюцца і кідаюцца ў нябёсы.

Яшчэ не сышла раса. На шырокіх лістах — кроплі расы. Яны падаюць на мае боты. Нахіляюся да шырокіх лістоў. Ад іх ідзе водар вільгаці, зямлі, грунтоўнасці. Іду да трактара. Вітанне паху мазуты, што змешаны з пахам свежай зямлі, вітанне! Моцны грунтоўны пах. Калі быў падлеткам, працаваў на кані. Вазіў збожжа, бульбу, гной. У вялікага паслухмянага каня быў свой пах. Па-конску пахлі хамут, аброць, воз. Конскія пахі ядналіся з пахамі свежай раллі. Жывыя пахі. І ў майго трактара таксама жывы пах. Калі купляем новыя трактары, яны не пахнуць жыццём — мёртвы метал. Калі трактар крыху паходзіць — становіцца жывым. Заводжу трактар і абганяю радкі. Спачатку ў адзін канец, потым — назад. Зямля разварушылася, яна дыхае такімі моцнымі і шумлівымі пахамі! Выпівайце іх, хапайце, шырокія лісты жыцця!

## Кацюга вяртаецца з Сеула са срэбрам

У Сеуле прайшоў чэмпіянат свету па канькабежным спорце ў асобных відах. Небеспасяхова там выступілі беларускія спартсмены. Наша славутая канькабежка Анжэла Кацюга заваявала срэбраную ўзнагароду на дыстанцыі 500 метраў. На гэтай жа дыстанцыі яшчэ адна беларуска Святлана Радкевіч фінішавала на 19-м месцы. На дыстанцыі ў 1000 метраў Кацюга фінішавала чацвёртай, а Святлана Радкевіч ізноў была 19-й.

Як паведамілі журналісту “Народнай волі” ў Беларускім саюзе канькабежнага спорту, самалёт з нашымі спартсменамі прызямліўся ў аэрапорце “Мінск-2” учора днём. Аб тым, як ацэньваюць вынікі прайшоўшага першынства яго ўдзельнікі, — у бліжэйшых нумарах газеты.

**Антон ВІТАЛЬЕЎ.**

## «Аляксандра і Канстанцін» трапілі ў аварыю

Як паведаміў адзін з удзельнікаў дуэта, Канстанцін Драпеза, у машыну, у якой яны ехалі, урэзалася іншая машына. Паводле слоў артыста, у вадзіцеля іх аўтамабіля чэрапна-мазгавая траўма.

У сувязі з аварыяй здымкі промакліпа на песню “Мой Галілей”, заяўленую на ўдзел у конкурсе “Еўрабачанне-2004”, пераносяцца на другую палову гэтага тыдня.

Нагадаем, што “Аляксандра і Канстанцін” сталі першымі беларускімі ўдзельнікамі конкурсу песні “Еўрабачанне”, які ў маі гэтага года адбудзецца ў Турцыі.

**Юлія ЦЯЛЬЦЕЎСКАЯ.**

## Тыдзень франкафоніі

Лекцыяй пра жыццё і творчасць французскай пісьменніцы Жорж Санд і канцэртам музыкі Фрэдэрыка Шапэна ў Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі ў Мінску адкрыўся Тыдзень франкафоніі. Пасольства Францыі арганізуе гэтае мерапрыемства ў Беларусі дзевяты раз.

Як паведаміў на яго адкрыцці пасол Францыі ў Беларусі Стэфан Шмялеўскі, сёлета ў рамках Тыдня франкафоніі ў Мінску пройдзе сход клуба юных франкамоўных чытачоў “Croc-a-lire”, уручэнне другой Мінскай літаратурнай прэміі, адмысловы “швейцарскі вечар”, гала-канцэрт франкафоніі. Франка-беларуская трупа “Заўтра вясна” пакажа спектакль “Чайка” А.Чэхава па-французску. Акрамя таго, 22 сакавіка адбудзецца святкаванне 10-й гадавіны заснавання франкамоўнага аддзялення факультэта міжнародных эканамічных адносін Беларускага дзяржаўнага эканамічнага ўніверсітэта.

“Франкафонія” — гэта таксама і міжнародная арганізацыя, якая аб'ядноўвае сёння 500 млн. чалавек на пяці кантынентах. Яе членамі з'яўляецца 51 дзяржава; яшчэ пяць краін — Літва, Славенія, Польшча, Чэхія і Славакія — далучыліся да яе ў якасці назіральнікаў. Пастаянным органам арганізацыі з'яўляецца Міжурадавае агенцтва франкафоніі. Перыядычна праводзяцца сустрэчы кіраўнікоў дзяржаў і ўрадаў краін, якія ўваходзяць у арганізацыю.

**Вольга ЛАПІКАВА.**



17

сакавіка

**СЕРАДА**
Усх. 6.20 Зах. 18.18
Даўж. дня 11.58
Апошняя квадра
13 сакавіка

**215 гадоў** з дня нараджэння В. Бучынскага (1789—1853), беларускага філосафа, аб'ектыўнага ідэаліста, прафесара філасофіі Полацкай езуіцкай акадэміі

ЛЮБОПЫТНО

## Как Берлускони отбрил...

Во время радиопрограммы, в которую ведущие пригласили звонить слушателей, итальянский премьер отбрил владельца ларька из города Палермо на Сицилии, назвавшего премьера коллегой. “Мы не работаем вместе, — ответил Берлускони, — так что мы не коллеги. Ваша работа полезна для экономики, а я не уличный торговец, я управляю страной”. Это заявление — очередной удар по попыткам итальянского премьера представить себя как человека, близкого к народу.

Берлускони — известный мастер слова, прославившийся обидными высказываниями. Так, в свое время он сказал, что член Европейского парламента от Германии Мартин Шульц просто мечтает сыграть роль охранника в нацистском концлагере. Это заявление, сделанное в прошлом году, когда Италия вступала в роль коллективного президента Евросоюза, вызвало бурю ярости в Германии. На брюссельском саммите, ознаменовавшем конец итальянского президентства в ЕС, пытаясь сгладить эти трения, Берлускони предложил сменить тему.

“Давайте поговорим о футболе и о женщинах, — сказал он. И добавил, обращаясь к канцлеру Германии: — Герхард, может, ты начнешь?” При этом уместно напомнить, что Герхард Шредер был женат четырежды.

## Японские ученые создали робота-трубача

На днях японские инженеры представили свою новую разработку. Это робот-гуманоид, который играет на трубе, сообщает телекомпания НТВ.

“Железный трубач” пока безымянный, его стоимость также держится в секрете. Однако он обладает абсолютным музыкальным слухом.

К восторгу публики, раскачиваясь в такт музыке, робот исполнил на трубе мелодию из мультфильма.

ВЫСТАВКИ

## Лучшие среди... кошек

**Белорусская ассоциация кошек в честь своего 15-летия проведет Международную выставку кошек под эгидой FIFe. Состоится она 20—21 марта в столичном кинотеатре “Москва”**



Участвовать в выставке будут животные из Беларуси, Латвии, Польши, России и Украины. Оценивать их будет международное жюри, в составе которого судьи из Бельгии, Польши и России. По результатам выставки определят лучшего белорусского котенка, лучшее молодое животное белорусского разведения, лучшего взрослого кота и других “лучших”.

На выставке будет представлено около 160 котов и кошек двадцати пород. Среди них и редкие для Беларуси породы — американский кёрл и курильский бобтейл. Кроме них будут представлены и норвежские лесные кошки, и британские голубые, и сфинксы, бурмиллы, персидские экзотические и другие. Беспородным котам и кошкам для участия в выставке также дан “зеленый свет”. Правда, по словам организаторов, от этой категории участников пока поступила только одна заявка.

Условие для участия в выставке только одно — наличие у животных прививки от бешенства.

Посетители будут иметь возможность полюбоваться изящными существами за небольшую плату: цена детского билета — 2000 руб., взрослого — 3000 руб.

**Наталья ГУСЕВА.**

## Среда, 17 марта

### БТ

**07.00, 08.00, 09.00, 10.00, 11.00, 12.00, 13.00, 14.00** Новости.
**07.05, 07.35, 08.10, 08.35** “Доброе утро, Беларусь!”.
**07.30, 08.30** “Деловая жизнь”.
**09.05** Сериал **“Одиссея”.**
**10.05 “Время — деньги”.** Сериал.
**11.05 “Богатые и знаменитые”.** Сериал.
**12.10** “Моя страна”.
**12.25** Комедия **“Удар по системе”.** (США).
**15.10 “Студенческая жизнь”.** Молодежный сериал. (Канада).
**16.05** “5x5”. Программа для молодежи.
**17.05** “Маски-шоу”.
**18.30** “Кстати” с Тамарой Лисицкой.
**19.05 “Клеопатра”.** Исторический сериал. 1-я серия. (Англия).
**20.00 “Пейзаж с убийством”.** Детективный сериал. 1-я серия. (Россия).
**21.00** “Панорама”. Информационный канал.
**21.50** “Нюрнбергский процесс — новая история”. Видеофильм АТН.
**22.00 “Страна глухих”.** Криминальная мелодрама.
**00.10** “Чемпионы. Ирина Ятченко и Игорь Астапкович”.

### ОНТ

**07.00, 09.00, 18.00, 20.30, 23.45** Наши новости.
**07.05** “Наше утро”.
**09.05, 19.05** Сериал **“Клон”.**
**09.55, 21.00** Сериал **“Отель исполнения желаний”.**
**10.30** “Дом”.
**11.15** “Не только о футболе”.
**11.35** Дисней-клуб.
**15.10** “Город женщин”.
**16.00** Сериал **“Берег мечты”.**
**16.50** “Большая стирка”.
**18.10** “Дом”.
**20.00** Время.
**21.45** Сериал **“Любительница частного сыска Даша Васильева”.**
**22.50 “Улицы разбитых фонарей-5”.** Сериал.
**00.00** Фабрика звезд.

### РОССИЯ

**07.45, 19.55** Сериал **“Тайны следствия-3”.**
**08.50** “Короткое замыкание”.
**09.50, 22.50** Вести. Дежурная часть.
**10.00, 16.00, 19.00** Вести.
**10.30, 19.30** Местное время. Вести-Москва.
**10.50** “Что хочет женщина”.
**11.50, 21.00** Сериал **“Пан или пропал”.**
**16.10** Сериал **“Люди и тени-2”.**
**17.05** Сериал **“Главные роли”.**
**18.00** Сериал **“Пассажир без багажа”.**
**19.50** Спокойной ночи, малыши!
**22.00** Вести+.
**22.20** “Без галстука”.
**23.05** Детектив **“Меченые”.** (СССР, 1991 г.).

### ЛАД

06.30 Euronews.
**Техническая профилактика с 8.00 до 14.00**
14.00, 20.00 Новости.
**14.10** Мультиклуб.
**15.05** Сериал “Зеркало, зеркала”.
**15.25** “Не зевай!”.
**15.35** Тележурнал “Бум”.
**16.05 “Неизвестный Наполеон”.** Сериал.
**16.25** “Земное обращение Антонио Вивальди”.
**16.35** “Росчерк времени”.
**16.50** Сериал **“Вокруг света за 80 дней”.**
**17.35** “Между нами, женщинами”.
**17.55** Кинороман **“Тихий Дон”.**
**20.15** Колыбельная.
**20.30** “Дела семейные”.
**21.15** Сериал **“Грешная Анхелика”.**
**22.05** Сериал **“Проклятый уютный дом”.**

### НТВ

**16.00, 18.00** Сегодня.
**16.30** Сериал **“Она написала убийство”.**
**17.35** Протокол.
**18.40** Сериал **“Таксист”.**
**19.50** Сериал **“Рокировка”.**
**21.00** Страна и мир.
**21.35** Красная стрела.
**21.45** Сериал **“Без следа”. “Победа человечности”.**

### СТВ+RenTV

**06.15, 18.00** “Минщина. Люди, события, факты”.
**06.25, 15.40 “Пауэр рейнджерс, или Могучие рейнджеры”.** Сериал.
**06.50** “Близнецы судьбы”. Мультсериал.
**07.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.45** “24 часа”.
**07.50, 20.00** “СТВ-спорт”.
**08.05** “Минск и минчане”.
**08.20** “Технология”.
**08.30** “Автопанорама”.
**08.50** “Закон и криминал”.
**09.05** Приключенческий фильм **“Стальные когти”.** (Гонконг, 1993 г.).
**10.55** “Эти эксцентричные люди”. Док.фильм.
**11.30** “Горячий лед”.
**12.00** “Час суда”.
**13.00** “В тротиловом эквиваленте”. Док.фильм.
**13.50** “Сдвинутый”. Сериал.
**14.45 “ОБЖ, или ОБиЖенная любовь”.** Сериал.
**15.15** “Рыцари света”. Мультсериал.
**16.00** “Голубой щенок”. Мультфильм.
**16.20** “Тема дня”.
**17.00 “Вовочка-3”.** Сериал.
**17.30 “Чисто по жизни”.** Сериал.
**18.15** “Планета людей”.
**18.30 “Сдвинутый”.** Сериал.
**20.15** “Минск и минчане”.
**20.25** “Добрый вечер, малыш...”.
**20.40** “Автопанорама”.
**20.55** Фантастический фильм **“Космический пришелец-2”.** (США, 2003 г.).
**23.05** “Технология”.
**23.15** “Собаки. Молчание щенят”. Док.фильм.
**00.00** “Секретные материалы”. Сериал.
**00.45** “Новости СНГ”.

### 8-Й КАНАЛ

**17.30** “Мультпарад” от “Бюргера”.
**17.45 “Универсальный солдат”.** Художественный фильм.
**19.10** “К-видео” — “Топ-8”.
**19.30 “Приключения Шерлока Холмса”.** Сериал **“XX век продолжается”.** 2-я серия.
**20.45** “Вечарніца”.
**21.00** “Европа сегодня”.
**21.30 “Вирус любви”.** Комедия.

### ТВ ЦЕНТР

**06.30** “Настроение”.
**07.45** Газетный дождь.
**07.55 “Страсти по Саломее”.** Сериал.
**08.45 “Жизнь продолжается”.** Сериал.
**09.40** Телемагазин.
**10.00, 13.00, 17.00, 21.00** События. Время московское.
**10.15** Телеканал “Дата”.
**11.05** Песочные часы.
**11.35** Народные средства.
**11.55** Квадратные метры.
**12.10** Петровка, 38.
**12.30** Деловая Москва.
**13.15 “Инспектор Кресс”.** Сериал.
**15.30** Ступеньки.
**16.00 “Тайны Ниро Вульфа”.** Сериал.
**18.50** Пять минут деловой Москвы.
**18.55 “Жизнь продолжается”.** Сериал.
**19.50 “Нина”.** Сериал.
**21.40** “Заплыв слепых”.
**22.25** Времечко.
**22.55** “Заплыв слепых”.
**23.35** Петровка, 38.
**23.55** 25-й час. События. Время московское.
**00.15** Музыкальный серпантин.
**00.35 “Парижский полицейский”.** Сериал.
**01.25** “Синий троллейбус”.
**04.45** “Настроение”.

### EUROSPORT

**09.30** Экстремальные виды спорта.
**10.00** Сноуборд.
**10.30** Евроголы.
**11.30** Биатлон.
**13.00** Прыжки с трамплина.
**14.00** Футбол.
**16.00** Теннис.
**17.30** Биатлон.
**19.00** Ралли.
**20.30** Гольф.
**22.00** Теннис.
**23.30** Журнал.
**00.30** Бокс.

**Адрас рэдакцыі:**
**220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а.**
**Прыёмная: тэл./факс (017) 206-68-71.**
**Тэл./факс рэкламнага аддзела: 206-69-04, 206-69-06.**
**E-mail: nv@promedia.by**
**http://nv.promedia.by**

**Індэкс 63222.**

**Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф СЯРЭДЗІЧ**



Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №246 ад 10 кастрычніка 1996 г. (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Нумар газеты аддрукаваны з дыяпазітываў заказчыка на ААТ «Красная звезда», 220073, г.Мінск, 1-ы Загарадны завулак, 3. Падпісаны ў друк у 15.00. Аб'ём 2 друк. аркушы. Тыраж: 27 730 экз. Заказ № 608.